Год VI. Красавік № 4 (64).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 4:



**Ад 15 сакавіка с. г. да 10 г. м. з прычыны не аплаты падпіскі ўстрымана высылка „Шляху Моладзі“ для 76 чалавек. Усіх тых падпішчыкаў, якія дагэтуль неаплацілі належнае падпіскі і гэты нумар „Шл. М.“ яшчэ атрымаюць, просім як найхутчэй гэта зрабіць, бо і ім высылка часопісі будзе ўстрымана.**

**Рэд. і Адм. „Шляху Моладзі“.**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | У, у — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VI. | Вільня, Красавік 1934 г. | № 4 (64). |
|---|---|---|


* * *

Ноч навісла над соннай зямлёй...
Як духаў рой,
Чары ляглі
Над далінай,
Разаслаўшы імглы
Палатніны...
Сьпіць нябесны прастор...
Вышы неба зіяюць брылянтамі зор,
Як агністаю тысячай воч.
У вышох сьпіць чароўная ноч...
Блескам срэбра зіхціць
Неба глыбяў прастор;
У вышах ноч чароўная сьпіць.
Ціхі ветрык цалуе палі —
Маладое вясны пасланец —
І маўчаць у бясконцай далі
Духі ночы — з канца у канец...
І у вышы пачуўся звон...
Ударыў голас медзі ў склеп нябёс
І над зямлёй магутна абвясьціў:
„Хрыстос Ускрос!...“
Надзеі сьветлых дзён
Прабудзіў
У збалелай душы.
Ўсё замоўкла, самлела ў цішы...
Хрыстос Ускрос! — шапнулі ціха зоры;
Хрыстос Ускрос! — адклікнулась зямля
І ўсё заціхла у пакоры
Прад сьцягам неба караля.
Званы ўскрасеньня б‘юць...
Ці чуеш, брат-Крывіч?
Гудуць званы, гудуць...
Свабоды кліч!..
Збудзісь, Крывіч!
Званы ўскрасеньня б‘юць.

А. БЯРОЗКА

**Ад. Станкевіч.**

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. 2)

*70-лецьце сьмерці Кастуся Каліноўскага рэд. „Мužyckaj Praŭdy“ († 1864) — 50-лецьце «Гоману» (188 ) — 6-лецьце абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі (25. III. 1918).*

II.

**Беларускі народ жыў, жыве і жыць будзе.**

Сяньня яшчэ часта можна пачуць галасы аб тым, што ніякай Беларусі, ніякага беларускага народу ніколі ня было, а з нічога, як ведама, нічога і быць ня можа. Тымчасам пагляд гэткі, як сяньня, ужо дастатачна выказала навука, цалком фальшывы і, як гэткі, з праўдай ня мае нічога супольнага.

Кожны паасобны чалавек, як ведаем, перажывае розныя пэрыяды свайго разьвіцьця. Сьпярша жыве ён толькі ў зародку, пасьля перажывае час дзяцінства, пазьней час моладасьці, тады час дасьпеласьці і ўрэшце старасьці, а такжа час здароўя і хворасьці. Гэтулькі перажывае featнага жыцьця адзін і той самы чалавек.

Нешта падобнае дзеецца і з народам. І народ кожны пачынаецца ад якога пляменнага зародку, перажывае час свайго дзяцінства, моладасьці, дасьпеласьці, старасьці, занепаду і адраджэньня. Розьніца між паасобным чалавекам і народам толькі тая, што народ, не памёршы ў першых пэрыядах свайго разьвіцьця, звычайна астаецца доўга, доўга жыць. Дзеля гэтага іменна і кажуць, што народы быццам ня ўміраюць, хоць фактычна ўміраюць і яны, як і кожны паасобны чалавек.

З гісторыі чалавецтва бачым, што народы імкнуцца звычайна да дзяржаўнага жыцьця і што гэта дзяржаўнае жыцьцё яны твораць на асновах розных грамадзкіх вартасьцяў, якія часта зьяўляліся вартасьцямі адначасна для многіх народаў. Такімі грамадзкімі вартасьцямі даўней былі: пляменнае пачуцьцё сваяцкасьці, а пазьней рэлігія і дынастыя (род пануючых валадароў). Бывала так жа асновай для дзяржаўнасьці — часта нават розных народаў — супольная тэрыторыя, гісторыя, прыродныя граніцы якога краю, заваяваньне, патрэба палітычнай роўнавагі.

Клясычным прыкладам, як можна будаваць дзяржаву з розных нават народаў на асновах напр. рэлігіі і дынастыі — каб ня выпічаць іншых асноў — служыць старадаўная і сярэднявечная гісторыя раманскіх народаў Заходняй Эўропы. Рым заваяваным розным народам накінуў сваю старую, лацінскую мову, як мову культуры і дзяржавы, а Касьцёл Ка-

таліцкі аказаў сябе, як установу наддзяржаўную. У рамах гэтай касьцельнай наддзяржаўнасьці валадары пануючага дому Заходняй Эўропы гаспадарылі ў сваей дзяржаве, як цяпер напрыклад гаспадарыць селянін на сваей гаспадарцы: яны дзялілі сваю дзяржаву між сыноў, аддавалі часьць дзяржавы, як пасаг сваім дочкам і г. д. І ад гэткай дзяржаўнай гаспадаркі вялікай бяды дзяржаве ня дзеялася, бо ўсюды аставаўся той-жа наддзяржаўны Касьцёл, тая-ж лацінская мова і нават тыя-ж самыя людзі на дзяржаўных становішчах.

Нешта падобнае ў гісторыі дзеелася і з беларускім краем і з беларускім народам.

Народ гэты, стварыўшыся з трох сваяцкіх плямёнаў: крывічоў, радзімічоў і дрыгвічоў*), ужо ў IX XIII ст., жыў сваім самастойным дзяржаўным жыцьцём і з аружжам у руках бараніў сваю гэтую самастойнасьць сьпярша ад князёў кіеўскіх (украінскіх), а пасьля і літоўскіх. Палітычным цэнтрам беларускага народу быў тады Полацак, а полацкія князі і агулам мяйсцовыя князі роданачальнікі былі гэтага народу нацыянальнымі павадырамі. Народ беларускі ўжо тады чуў сваю асобнасьць ад народаў суседніх — украінцаў**) і літоўцаў, — з якімі біўся за свае землі і ад якіх бараніўся, але вонкавым знакам, як-бы меркай гэтай асобнасьці было не пачуцьцё нацыянальнае ў сяньняшнім разуменьні, а мяйсцовыя князі і ягоныя роды, якія стаялі на чале народу і пры помачы народнага веча кіравалі, ці вярней, спаўнялі волю гэнага веча. Гэты вечавы дэмократычны лад на беларускіх землях не пазваляў дзеіць на некарысьць народу такжа і князём паходжаньня не мяйсцовага, а чужацкага. Вонкавым такім чынам паказальнікам жыхаром беларускай зямлі, што яны між сабой родныя, што яны сваякі, служыла дынастыя агулам мясцовых князёў, а прадусім полацкіх. Гэта-ж дынастыя, апрача пачуцьця пляменнага сваяцтва і супольных інтарэсаў эканамічных, у той пэрыяд беларускай гісторыі і была тым галоўным грамадзкім злучвом, якое спрыяла далейшаму разьвіцьцю пачуцьця сваяцкасьці між жыхарамі беларускай зямлі, а так-жа была яна тэй грамадзкай асновай, на якой будавалася беларуская дзяржаўнасьць, сьпярша на землях Полаччыны, а пазьней на ўсіх землях сяньняшняй Беларусі.

---

*) „Крывічы... былі прабацькамі цяперашніх беларусоў... У найбліжэйшым з імі сваяцтве знаходзіліся Дрыгвічы, якія жылі паміж Прыпяцьцю і Бярэзінай. У цесным сваяцтве з Крывічамі былі Радзімічы, якія жылі па Сожы“. (Проф. М. Любавскій — Основные моменты исторіи Бѣлоруссіи“ — Москва 1918, бач. 8).

**) „...Эта политика была не случайностью, не результатом какой-либо фамилиной вражды въ нѣдрахъ княжескаго рода, а диктовалась какими-то факторами стоявшими внѣ личной воли князей и ихъ дружинъ. Мнѣ представляется, что причины этого сепаратизма коренились въ настроеніи самаго населенія Полоцкой земли, въ свою очередь созданнаго географическими условіями“. (Любовскій, там-жа бач. 11).

Праўда, яшгэ ў гэтым пэрыядзе беларускай гісторыі народ наш і наш край не завецца беларускім, а пераважна крывіцкім, але назова не зьмяняе справы. Беларусы зваліся Крывічамі, бо гэта было найвялікшае племя, з якога паўстаў цяперашні беларускі народ. Адзінства беларускай культуры „у пісаных помніках, у малярстве, будаўніцтве і грамадзкім укладзе праяўляецца на ўсім абшары ад Новагорадка Наднёманскага да Новагорадка Северскага і Вялікага Ноўгараду — тудѣ живяху Крывічы—як выражаецца летапісец"*).

Далей аднак аставацца незалежным і самастойна кіраваць сваей дзяржавай на ўсіх сваіх землях беларускаму народу не ўдалося. У XIII і XIV ст. нямала было прычын, якія дамагаліся ад Беларусоў аб'яднаньня іх з Літвой. З усіх бакоў пачалі напіраць на беларускія землі ворагі. З паўдня ішла руіна і няволя ад татараў, з поўначы і захаду націскалі нямецкія рыцары, палонячы і сілай хрысьцячы Беларусоў паводле лацінскага абраду. У палове XIV ст. стала так-жа напіраць на Беларусь і маладое каралеўства польскае, якое толькі-што паўстала з развалін удзельнай эпохі. А ўзноў з усходу пашлі крыўды і зьніштажэньні ад усьцяж магутнеючага Княства Маскоўскага. Пры гэткіх варунках, рэч ясная, што новапаўстаўшаму Вялікаму Княству Літоўскаму было лёгка стацца палітычным цэнтрам, да якога сталі хінуцца беларускія землі,тым больш, што ад самага пачатку свайго існаваньня яно было ня проста літоўскім, а літоўска-беларускім**).

Гісторыя, знача, так пакіравала лёсам беларускага народу, што ён быў змушаны злучыць свой лёс з Літвой, з якой разам збудаваў супольную беларуска-літоўскую дзяржаву, што пратрывала ад XIII да паловы XVI ст., да Люблінскай уніі з Польшчай.

У гэтым пэрыядзе, калі, як кажа Карскі***) беларускія плямёны аканчальна зьліліся ў адзін беларускі народ і калі мова яго аканчальна зложылася і выдзелілася ў мову самабытную беларускую і калі, як кажа, той-жа Карскі****), народ і край наш ужо суседзі нашы называлі беларускім, а ён сам хутчэй сябе зваў літоўскім з прычын палітычных. У гэтым пэрыядзе народ беларускі далей разьвіваў сваю нацыю і будаваў сваю дзяржаўнасьць, але ўжо на іншых, на новых грамадзкіх вартасьцях, на новых асновах. А рабіў ён гэта дужа мудра і арыгінальна.

Дынастыя беларускіх князёў, родных павадыроў беларускага народу, калі ня выгасла, дык так расьця-

---

*) В Ластоўскі — Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі, Коўна 1926, бач. VII.

**) Проф. М. Любавскій — Очерк Исторіи Литовско-Русскаго Государства, Москва 1910, бач. 33.

***) Е. Карскій — Бѣлоруссы I, Вильно 1904 бач. 111—112.

****) Е. Карскій, там-жа, бач. 114—117.

рушылася, што ўжо ня здольнай была лучыць у цэласьць і бараніць яго. Бязсільным тут ужо было і народнае веча. Вось-жа на зьмену гэнай дынастыі роднай прыходзе чужая, прыходзе дынастыя літоўскіх князёў. Народ наш — дабравольна ці не, — але годзіцца з ёй і даручае ёй свой палітычны лёс, пакідаючы аднак свайму кіраўніцтву справу культуры і справу свайго ўнутрана-грамадзкага ладу. Вышла так, што палітыку тварылі прадусім літоўцы, а культуру— беларусы. З гэткага даволі рэдкага ў гісторыі супрацоўніцтва двух народаў паўстала слаўная ў гісторыі літоўска-беларуская дзяржава, у якой, калі ня лічыць меншых уплываў украінскіх, сапраўды панавала беларуская мова і беларуская культура. Дык хоць падзяліўся ролямі наш народ з літоўскім у гэтым пэрыядзе свайго палітычна-грамадзкага жыцьця, але бадай ні ў чым ня зьменшыў і ня прыцьміў сваей нацыянальнай сілы, а наадварот — зрабіў ён праз гэта вялікі шаг уперад у сваім гістарычным разьвіцьці.

У першым пэрыядзе нашай гісторыі Беларусь была там, дзе панавалі беларускія князі і іх роды, а ў гэтым, там, дзе разьлягалася беларуская граматнасьць, беларускае пісьменства.

Пасьля гэтага сьветлага літ.-бел. пэрыяду беларускаму народу прышоў час упадку, час занепаду і палітычна дзяржаўнага і культурнага. Быў гэта час, калі народ гэты пасьля Люблінскай уніі (1569) апынуўся пад Польшчай, ужо не як палітычна самастойны, але як яе падданы, а пасьля разьдзелу Польшчы (канец XVIII ст.) апынуўся ён у такім-жа палажэньні пад Расеяй. Аднак народ наш і тут жыў так-жа вартасьцяй грамадзкай, якая яму прыпамінала яго нацыянальную асобнасьць — ягоную няпольскасьць і нерасейскасьць. Гэтай вартасьцяй, гэтым народным ідэалам была рэлігія і Царква. Праўда, рэлігійным наш народ быў заўсёды, заўсёды ён цаніў рэлігію высока, тварыў заўсёды рэлігійную культуру: пісьменства, малярства, архітэктуру і г. д., але на гэтую справу асаблівую зьвярнуў ён увагу ў пару свайго занепаду, у пару сваей палітычна-грамадзкай няволі.

Калі народ наш пачуў нязвычайны націск на сябе з боку Польшчы, калі пабачыў, што можа згінуць, асаблівую ўвагу у сваім жыцьці грамадзкім зьвярнуў ён на рэлігію, бо ён ведаў, што баронячы рэлігію і царкву, бароніць нацыю, бароніць народ. І сапраўды - у XVII і XVIII ст. толькі рэлігія была тэй грамадзкай вартасьцяй, якая зьберагла беларускую нацыю і тварыла беларускую культуру, як азнаку жыцьця народу. Вось чаму беларусы часта так сапраўды гэроічна бароліся з рэлігійнай уніяй, слушна бачачы ў ёй наступ польшчыны, а пасьля, калі з уніяй зжыліся і ў значнай меры не дапусьцілі да яе поўнага злацінщчаньня і спольшчаньня, калі унія была ўжо знакам, які розьніў беларуса як ад польскага каталіцтва, так і ад маскоўскага праваслаўя,

калі унія сталася адзінай апорай бел. культурнай асобнасьці, адзінай апорай беларускай нацыі, — беларусы яе так-жа гэроічна баранілі проціў наступу маскоўскіх цароў, што сягалі па душу яго пры помачы верных слуг сваіх здрадзіўшых унію епіскапаў Сямашкі, Лужынскага і Зубкі.

Цікава так жа адзначыць, што ў гэтым часе беларускі народ зваў сябе пераважна тутэйшым, рэзка гэтым аддзяляючыся ад напіраючай на сябе чужой, ня тутэйшай Польшчы і Расеі.

Розна, як бачым, жыў у гісторыі беларускі народ, але жыў заўсёды, будуючы сваю дзяржаўнасьць, творачы свой грамадзкі лад і сваю культуру і гэтым разьвіваючы сваю нацыянальнасьць.

Але даўней, як бачым, як народ беларускі, так-жа і іншыя народы, жылі інакшымі ідэаламі, як сяньня. Сяньня кожны народ імкнецца да еднасьці і непадзельнасьці сябе, да пераламаньня граніц дзяржавы, якая дзеліць народ і ўрэшце імкнецца да поўнай самадзельнасьці палітычнай. Даўней тварыліся дзяржавы зложаныя часта з розных народаў на асновах, на якіх сяньня ўжо дзяржавы ня будуюцца. Сяньня ўсе дзяржавы ў Эўропе аснаваны прадусім на нацыянальнасьці, гэта знача, што кожная нацыя, кожны народ сам сабе будуе дзяржаўнае жыцьцё, творыць сваю ўласную нацыянальную культуру і жыве сваім уласным самастойным жыцьцём. Гэткія ідэалы мае сяньня і народ беларускі і імкнецца да таго, каб яны сталіся чынам.

І так, калі народ беларускі быў пад Масквой, калі многія яго ўважалі за нябошчыка, калі на пацеху сваім ворагам, пад гнётам доўгай няволі губячы свой нацыянальны воблік, пачынаў называць сябе „польскай“ і „рускай“ веры, тады пачалося яго адраджэньне, пачалося прабуджэньне да новага жыцьця, тады прышла і да яго зорка, зьвяшчаючая яму ідэалы жыцьця нацыянальнага ў сучасным разуменьні гэтага слова.

Праўда, у гэтым сваім сучасным імкненьні да вольнага нацыянальнага і соцыяльнага жыцьця і да эканамічнага дабрабыту, народ беларускі напаткаў вялікую перашкоду з боку маскоўскага комунізму, які сілай ломячы усебаковае беларускае нацыянальнае адраджэньне, творыць з беларусаў казённых парабкоў-пролетараў без сваей гаспадаркі, без сваей бацькаўшчыны і бяз уласнай волі. Аднак можна цьвердзіць напэўна, што маскоўскі комуністычны прасьлед нацыянальнага адраджэньня беларускага народу і яго волі да дзяржаўнай незалежнасьці, можа гэтае адраджэньне і волю часова прыпыніць і нават скрывіць, але цалком здушыць ня зможа. Нацыянальнае пачуцьцё, як грамадзкую вартасьць сучаснай цывілізацыі і поступу, народ беларускі мусіць перажыць для ўласнага свайго дабра, каб ні чым не аставацца парабкам. А сучасны прасьлед Масквой беларускай нацыі ў апошнім сваім

выніку справу поўнага адраджэньня і вызваленьня гэтай нацыі толькі прысьпяшыць і больш скрысталізуе.

Цікава пры гэтым урэшце адзначыць, што як поўны занепад беларускага народу прышоў у пач. XVII ст. з поўным пераходам асьвечаных шляхоцкіх клясаў у польскасьць, са здрадай народу, так адраджэньне прышло з паваротам да народу людзей з тых-жа шляхоцкіх клясаў, праўда ужо абяднеўшых і зьбліжаных да народу. І сапраўды справа палітычнай і грамадзкай самастойнасьці нашага краю і справа самастойнасьці культурнай народаў гэтага краю замёрла разам з Вялікім Львом Сапегай (†1633), але замёрла часова; прашло 230 гадоў і гэтую справу ўскрасіў Кастусь Каліноўскі і павіс за яе на шыбеніцы. Ён сапраўды ўскрасіў дзяржаўніцкую фэдэрацыйную ідэю зямель Вялікага Княства Літоўскага,—якім яно фактычна было яшчэ пасьля Люблінскае уніі за часоў Льва Сапегі, — але ён ужо прадусім зварочваў увагу сваю на народ беларускі і — можа нават нясьведама — зачаў такім чынам у яго разьвіцьці эру змаганьня за поўную палітычную незалежнасьць Беларусі.

У пятнаццаць якіх гадоў па сьмерці Каліноўскага, падобныя-ж беларускія палітычныя ідэалы разьвіваў Ігнат Грыневецкі, вышаўшы, здаецца, так-жа з абяднелай і спольшчанай беларускай шляхты і ўрэшце людзі, якія выдавалі для пашыраньня гэных ідэалаў адумысловую часопісь „Гоман".

---

## Ideja niezaležnaści Biełarusi i jaje vorahi.

*(Z nahody śviatkavańnia 16 uhodkaŭ Abvieščańnia Niezaležnaści Biełarusi).*

Z hodu ŭ hod biełaruskaje niezaležnaje hramadzianstva ŭ Vilni i na pravincyi śviatkuje ŭhodki Abvieščańnia Niezaležnaści Biełarusi ŭ Miensku Aktam Rady Biełaruskaje Narodnaje Respubliki z dnia 25-ha sakavika 1918 h. Sioleta hetaje śviatkavańnie vypała nia mienš uračysta, jak i prošłyja hady.

U Vilni rana, a hadz. 10, u kaściele św. Mikałaja Ks. Ad. Stankievič adpraviŭ uračystuju Imšu, paśla jakoj Ks. dr. St. Hlakoŭski strojna skazaŭ pramovu pryśviačanuju ŭhodkam Abvieščańnia Niezaležnaści Biełarusi.

A hadz. 12 adbyŭsia Malebien u sabory św. Ducha, jaki adpraviŭ archim. Filip Marozaŭ u asyście ieramanachaŭ i dyjakana manastyra. Paśla malebienu toj-ža archim. Filip skazaŭ, choć słaboj biełaruskaj movaj, ale z hłybokim biełaruskim źmiestam pramovu pryśviačanuju Biełaruskamu Narodnamu Śviatu.

Viečaram u zali Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury adbyłosia ŭračystaje pasiedžańnie Biełaruskaha Nacyja-

nalnaha Kamitetu z učaściem haściej, katorymi pierapoŭniena było ŭsio pamieškańnie Instytutu. Pasiedžańnie raspačaŭ adpaviednaj da ŭračystaści pramovaj staršynia K-tu red. J. Paźniak. Paśla Ks. V. Hadleŭski pračytaŭ cikavy referat z biełaruskaha palityčnaha žyćcia ŭ Miensku ŭ 1917-18 h., biaručy asabliva pad uvahu dziejnaść abšarnika R. Skirmunta, rasiejskich kamunistaŭ, razhon Usiebiełaruskaha Kanhresu, paŭstańnie i dziejnaść Mienskaha Biełaruskaha Pradstaŭnictva i pryčyny pasyłki telehramy Vilhelmu II, vyjaŭlajučy pry hetym mnoha niaviedamych faktaŭ. Kali-b chto chacieŭ bližej paznajomicca z referatam Ks. V. Hadleŭskaha, radzim čytać ad 16 numaru „Bieł. Krynicu", jakaja drukuje hety referat poŭnaściu.

Paśla referatu vitali biełarusoŭ z Narodnym Śviatam, žadajučy chutkaha asiahnieńnia svaich niezaležnickich ideałaŭ: pradstaŭnik Litoŭskaha Kamitetu ŭ Vilni, vice-staršynia K-tu hram. P. Karazija i pradstaŭnik ukrainskich studentaŭ u Vilni, stud. Tkačuk. Dalej inž. A. Klimovič pračytaŭ prysłanyja pryvitalnyja telehramy i piśmy: ad Staršyni Rady Biełaruskaj Narodnaj respubliki V. Zacharki z Čechasłavaččyny, ad Biełaruskaj Rady ŭ Prazie, ad Ukrainskaj Parlamentarnaj Reprezentacyi i UNDO, ad Ukrainskich Socyjalistaŭ-Radykałaŭ, ad Bieł. Studenskaha Sajuzu ŭ Berlinie, ad ks. dr. praf. J. Tarasieviča ŭ Amerycy i mnohich inšych arhanizacyjaŭ i asobaŭ u kraju.

Paśla adbyŭsia kancert, prahramu jakoha vypaŭnili: chor pad kiraŭnictvam A. Stepoviča, jaki vykanaŭ rad biełaruskich narodnych pieśniaŭ, pačynajučy svaje vystuplenni biełaruskim narodnym hymnam „Nie pahasnuć zorki ŭ niebie" i solistka hram. Žena Bantle, katoraja vielmi strojna i ŭmieła vykanała 3 biełaruskija solovyja pieśni.

Na zakančeńnie prysutnyja adśpiavali biełaruski revalucyjny hymn „Ad vieku my spali".

Na pravincyi biełaruskaje hramadzianstva dzień 25 sakavika tak-ža, u mieru mahčymaściaŭ, adznačała supolnymi zborkami i hutarkami na niezaležnickija temy, pry tym u niekatorych vioskach byli pavyviešvany biełaruskija nacyjanalnyja bieła-čyrvona-biełyja ściahi, katoryja pazabirała palicyja.

---

Sioletnija ŭhodki Abv. Niezaležnaści Biełarusi śviatkavała ŭ Vilni jašče i bieł. sanacyja, ładziačy ŭ hety dzień malebien u Piatnickaj Carkvie i akademiju ŭ bieł. filii himnazii im. J. Sławackaha. Z usiaho „sanacyjnaha" śviatkavańnia vyraźniłasia padchalimskaja i niedarečnaja pramova ŭ carkvie sanacyjnaha śviašč. Kulčyckaha, jaki, vidać, nia znaje absalutna biełaruskaha žyćcia, nia cikavicca im, ci prosta vysłužvajučysia pierad adpaviednymi dabradziejami haradziŭ biazdarnyja pachvały palakom za ich pomač u budavańni biełaruskaje kultury(?!).

---

Padonki biełaruskich savietafiłaŭ u Zachodninj Biełarusi vydali na dzień 25 sakavika ŭ Vilni biazhłuzduju, škiravanuju praciŭ Aktu 25.III.1918 „Асву", jakuju česnamu biełarusu stydna ŭ ruki brać i jak na takuju, jasna, nie zvaročvajem bolšaj uvahi, vyražajučy ździŭleńnie, što znašlisia takija biełaruskija studenty, što advažylisia niešta padobnaje padpisać i raspaŭsiudžvać.

---

Śledziačy za raźvićciom biełaruskaha adradženskaha ruchu ŭ Zach. Biełarusi treba śćvierdzić, što pamima ŭsiaho, jon idzie ŭpierad, što niezaležnickaja biełaruskaja ideja, łučačajasia z Aktam 25 sakavika 1918 h., uściaž pahłyblajecca i jość idejaj biełaruskich narodnych pracoŭnych masaŭ.

Bačačy heta vorahi biełaruskaha narodu ŭsimi siłami starajucca abiaščeścić Akt 25 sakavika, sučasnych najbolš dziejnych zmaharoŭ za niezaležnaść Biełarusi i adciahnuć uvahu bieł. masaŭ ad najbolš hroznych prajavaŭ tamavańnia (zatrymyvańnia) biełaruskaha adradžeńnia. Vorahi hetyja nie pierabirajuć u metadach, — jany ŭściaž ćvierdziać, što taja niezaležnaja Biełaruś, jakoj jaje abvieścili ŭ 1918 h. była-b niejkaj „buržuaznaj", ciažkoj dla narodu i pryviazvajuć da idei 25 sakavika zbankrutavaŭšych dziejačoŭ, ichnija palityčnyja pamyłki, asabliva telehramu Vilhelmu II, starajučysia raźbić družbu biełaruskaha narodu z tymi narodami, jakija ŭ toj ci inšy sposab, vyražajuć svaje pažadańni ździejśnieńnia našych niezaležnickich ideałaŭ.

Voś-ža, što da pieršaha zakidu, ciažaści niezaležnaj Biełarusi i jaje „buržuaznaści", to jon jość zusim biespadstaŭny, bo tak nia było. A kali-b navat štoś padobnaje ŭ hetym kirunku i było roblena, dyk u volnaj złučanaj niezaležnaj biełaruskaj dziaržavie narod napeŭna patrapiŭ-by zaviaści taki ład, jaki najlepš jamu padabaŭsia-b, tak jak heta robicca ŭ inšych krajoch, dzie dziaržaŭny ład źmianiajecca z manarchistyčnaha i buržuaznaha na socyjalistyčny i naadvarot (Hišpanija, Italija, Niamieččyna, Anhlija i inš.). Pakul-ža Biełaruś budzie padzielena, jasna, što my nia možam i dumać ab ustanaŭleńni takoha ładu, jaki nam padabajecca tam, dzie my znachodzimsia i dzie stanovim tolki dziaržaŭnuju mienšaść. Heta nia znača adnak, što my pavinny ciapier zdacca na łasku i niałasku panujučaha narodu. My majem — na papiery — pravy zahvarantavanyja mižnarodnymi traktatami viaści svaju kulturnuju i ekanamičnuju pracu i my pavinny heta rabić, idučy jak-maha chutčej da samabytnaści.

Ciapier što da pamyłak niekatorych biełaruskich dziejačoŭ, imiony jakich źviazany z baraćboj za niezaležnaść Biełarusi, a pieradusim da pasyłki telehramy Vilhelmu II. Voś-ža,

pieradusim nia možna brać za adno zbankrutavaŭšych dziejacoŭ i niezaležnickuju ideju, bo bankroctva dziejača nia jošć bankroctvam samoj narodnaj idei, a bićcio pakłonaŭ Vilhelmu II, heta biazumoŭna — pasiańniašniamu — vialikaja pamyłka, jakoj užo nia možna papravić. Takija-ž samyja pamyłki robiać siańnia ŭsie tyja biełarusy, katoryja biessansoŭna i biestałkova bjuć pakłony Stalinu, Maskvie i Varšavie, ci jakomu inšamu čužomu „pryjacielu".

Toj, chto žadaje dabra biełaruskamu narodu i całaj Baćkaŭščynie, pavinien być sapraŭdnym niezaležnikam i ŭvachodzić u kantakt z tymi narodami ci asobami, jakija paludzku — hodna da biełaruskaha narodu adnosiacca. Maju tut na ŭvazie Ukraincaŭ i Litoŭcaŭ, adnosiny jakich da Biełarusoŭ, ci Biełarusoŭ da ich chočuć vorahi našyja pahoršyć, kidajučy kość niazhody ŭ formie padziełu Paleśsia, Vilenščyny ci inšych ziamiel, jakija pad siańniašniaj uładaj Polščy pieradusim polonizujucca.

Kab havaryć ab hetym biesstaronna, to treba pryznać, što „niama hrabiel, jakija hrabuć ad siabie". Ale treba pieradusim pamiatavać i toje, što pavadyry i pradstaŭniki Litoŭcaŭ i Ukraincaŭ, nia hledziačy na roznyja „niavyhody"..., aficyjalna i zhodna žadajuć, kab Biełaruś stałasia volnaj i niezaležnaj, nie aznačajučy joj palityčnych ramak i hranic,—čaho nia robiać inšyja našyja susiedzi. Ukraincy i Litoŭcy iduć razam z nami, łučyć ich z nami i nas z imi adna niadola, a viedama ŭznoŭ, što pryjacielaŭ paznać možna ŭ biadzie.

Voś jakija pahanieńkija padryvy robiać varožyja siły adradžeńniu biełaruskaha narodu, padkopvajučysia pad niezaležnickija biełaruskija ideały i pad niezaležnicki biełaruski ruch, chočučy pradoŭžyć našaje sučasnaje niezavidnaje... pałažeńnie. Nie zahłušać adnak jany ŭzrostu biełaruskaha narodu i ŭ kancy-kancoŭ prydzie toj čas, što Biełaruś staniecca volnaj i niezaležnaj, bo inakš być niamoža, bo hetki pryrodny paradak bytavańnia kožnaha narodu.

J. N.

---

# Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

(*Справаздача з Агульнага Гад. Сходу Рады Інстытуту дн.18.3.34*).

З існуючых беларускіх культурна-прасьветных арганізацыяў у Заходняй Беларусі, апошнім часам першае месца займае Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, які дагэтуль разьвіваў сваю дзейнасьць прадусім на вёсцы, закладаючы там свае аддзелы і гурткі і праз іх пашыраючы і паглыбляючы ў народзе зразуменьне і патрэбу гаспадарчага і культурнага адраджэньня Беларусі. Закладаньне гурткоў,

гуртаваньне ў іх людзей, ідучых да гэтага адраджэньня, даваньне ім помачы ў форме бібліятэк-чытальняў, паказваньне дарогі праз друкаванае слова — усё гэта Інстытут спаўняў паводле магчымасьці як найлепш, пачынаючы ад 1926 г., гэта значыць ад сваіх закладзін.

З справаздачы старшыні Цэнтральнага Ураду Інстытуту Кс. В. Гадлеўскага на Сходзе Гады дня 18 сакавіка с.г. з дзейнасьці за 1933 год відаць, што Гурткі Інстытуту, якіх ёсьць 51, паміма розных перашкодаў, бяз ніякае матэр'яльнае помачы ад Цэнтралі Інстытуту і са стараны, наладзілі каля 70 лекцыяў, больш 100 прадстаўленьняў, пашыралі беларускае друкаванае слова і прысылалі, хоць ня ўсе, складкі ў Цэнтралю.

Такую аднак дзейнасьць улады Інстытуту ўважалі крыху за вузкую і аднабокую, бо Інстытут быў заложаны ня толькі дзеля дзейнасьці на вёсцы, сярод масаў Беларускага народу, але так-жа і сярод яго інтэлігенцыі, каб ня толькі папулярызаваць навуку, але так-жа і тварыць яе, іншымі славамі Бел. Інстытут Г. і К. быў заложаны і пакліканы, паміж іншым, каб распрацоўваць ідэолёгію гаспадарчага і культурнага адраджэньня Беларускага народу і даць гэтай ідэолёгіі навуковыя падставы.

Згэтуль і назоў: Інстытут.

Статут Бел Інстытуту Г. і К. настолькі абшырны, што дае ўсе магчымасьці працы. І так, у параграфе 1-шым, дзе гаворыцца аб мэтах Інстытуту, чытаем:

„Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры засновываецца з мэтай разьвіцьця:

а) краёвага земляробства ўва ўсіх яго галінах, разам з гародніцтвам і зямельным промыслам;

b) людовага промыслу, рамясла, тэхнікі і люд мастацтва;

c) пашырэньня і падтрымліваньня духовай культуры, навукі і прасьветы."

Значыць, мэты Інстытуту не агранічваюцца закладаньнем гурткоў і аддзелаў, але маюць куды большы круг і дзеля гэтага апошнім часам у Цэнтральным Урадзе Інстытуту было прыступлена да распрацоўкі пляну працы Інстытуту, з тым, каб абняць і выкарыстаць (паводле магчымасьці) усе пункты Статуту, гэта значыць, ня толькі праводзіць акцыю на правінцыі праз свае гурткі, але яшчэ распрацоўваць у цэнтры асновы гаспадарчага і культурнага адраджэньня народу.

Каб дайсьці да сваіх мэтаў, Інстытут, паводле параграфу 5—f свайгоСтатуту: „арганізуе адпаведныя сэкцыі пры выканаўчых органах Т-ва". Вось-жа на паседжаньні Цэнтральнага Ураду Інстытуту дня 4 III. г. г. абгаварывалася справа арганізацыі Інстытуту паводле гэтых сэкцыяў. Старшынёю Інстытуту, Кс. В. Гадлеўскім, быў прачытаны праект стварэньня пры Інстытуце тымчасова чатырох сэкцыяў; гэты праект быў прыняты Цэнтральным Урадам дня 4.III. с. г.,

а дня 18 гэтага-ж месяца прыняў яго і Агульны Сход Рады Інстытутут. Ад гэтага дня праект гэты стаўся як-бы законам для ўсіх сяброў Інстытуту.

Выглядае ён так: пры Цэнтральным Урадзе Інстытуту арганізаваны 4 сэкцыі:

I сэкцыя — эканомікі і статыстыкі. Мэты яе: пазнаваньне прыродных багацьцяў краю; спосабы выкарыстываньня гэтых багацьцяў; спосабы абработкі і збыту розных вырабаў; пазнаваньне шляхоў і кірункаў абмену тавараў з іншымі краямі; распрацоўка асноў, на якіх павінна апірацца беларуская коопэрацыя: вытворчая, спажывецкая, крэдытовая, а так-жа дасьледжваньне шляхоў, якімі яна павінна ісьці і г. д. Апроч гэтага апрацоўка статыстычных даных з кожнай галіны жыцьця.

II сэкцыя — этнографіі і археолёгіі. Мэты яе: зьбіраньне матэрыялаў археолёгічных (старадаўных), прадусім з абшару Беларусі; зьбіраньне матэрыялаў этнографічных у найшырэйшым гэтага слова значэньні (пачынаючы ад матэрыяльнай культуры, ад вопраткі і ўсіх жыцьцёвых прыладаў, а канчаючы на прыказках, песьнях і іншых зьявішчах духовай культуры народу)

III сэкцыя — гісторыі і соцыолёгіі. Мэты яе: досьледы над гісторыяй Беларусі; досьледы архіваў. Пазнаваньне і дасьледжваньне грамадзкіх кірункаў мінуўшчыны і сучаснасьці, якія найболей інтэрэсуюць грамадзянства (марксызм, лібэралізм, дэмократызм, фашызм і г. д.)

IV сэкцыя — літэратуры і мастацтва. Мэты яе: ладзіць літэратурныя вечары, чытаць а потым друкаваць лепшыя творы; прабуджаць творчасьць беларускіх народных сіл; дасьледжваць даўнейшую і сучасную бел. літэратуру; ладзіць выстаўкі абразоў, зьбіраць творы народнага мастацтва і г. д.

Гэтак выглядае кожная сэкцыя і яе мэты ў агульных рысах.

На чале кожнай сэкцыі стаіць сэкрэтар, які кіруе працай сэкцыі і за яе адказны. Кожная сэкцыя працуе аўтанамічна, знаходзячыся ў цесным кантакце з Цэнтральным Урадам Інстытуту. На паседжаньнях сэкцыяў могуць браць удзел сябры Цэнтр. Ураду, Рэвіз. Камісіі і асобы прошаныя.

Паводле гэтага пляну, уся навуковая праца Інстытуту мае сканцэнтравацца ў сэкцыях. Каб гэтая праца не загінула, пастаноўлена выдаваць што-год кнігу-зборнік, дзе будуць друкавацца усе лепшыя творы сэкцыяў. Апроч гэтага з прысланых, ахвяраваных і купленых кніг пастаноўлена стварыць бібліятэку, а з прысланых археолёгічных і этнографічных матэрыялаў—музэй; з гэтай мэтай пастаноўлена выдаць адозвузаклік да ўсіх людзей добрае волі, каб ахвяроўвалі кнігі і розныя рэчы ў бібліятэку і музэй Інстытуту. Памешканьне для гэтых установ на пачатак ужо ёсьць.

Тыя-ж сябры з правінцыі, якія хацелі-б супрацоўнічаць

з мэтамі Інстытуту ў якой-колечы сэкцыі, могуць запісацца пры Цэнтральным Урадзе ў сябры дапамагаючыя (§ 10—b Статуту) і будуць спаўняць абавязкі сяброў-карэспандэнтаў, якія ёсьць пры вышэйшых навуковых установах. Яны прысылаюць у сэкцыі свае творы, зьбіраюць архэолёгічныя, этнографічныя, статыстычныя і ўсялякія іншыя матэрыялы ў сваей акрузе і гэтым памагаюць у працы сэкцыяў.

Гурткі маюць далей праводзіць працу на вёсцы; яны будуць злучвом паміж Цэнтраляй Інстытуту і вёскай; яны маюць пашыраць ідэі і мэты Інстытуту ў народных гушчах праз закладаньне бібліятэк-чытальняў, праз ладжаньне лекцыяў, рэфэратаў, прадстаўленьняў—так, як гэта рабілі дагэтуль.

Цэнтральны Урад арганізуе і пільнуе ўсяе працы.

Рада — ёсьць галоўнай і начальнай уладай Т-ва (§ 24).

Пасьля прыняцьця вышэй паданага пляну, Рада выбрала на сэкрэтароў:

1 сэкцыі—эканомікі і статыстыкі — інж. А. Клімовіча,
2 —этнографіі і архэолёгіі — абс. этн. М. Пецюкевіча,
3 — гісторыі і соцыёлёгіі — мгр. права М. Шкялёнка,
4 — літэратуры і мастацтва — мгр. філ. Ст. Станкевіча.

На гэтым-жа Сходзе Рада дала абсолюторыюм уступаючым выканаўчым уладам Інстытуту і выбрала новы Урад і Рэвізыйную Камісію. У Урад уваходзяць: Кс. В. Гадлеўскі як старшыня, В. Багдановіч і др. Б. Грабінскі — віцэ-старшыні, інж. А. Клімовіч - скарбнік, А. Стэповіч—сэкрэтар, мгр. М. Шкялёнак і мгр. Ст. Станкевіч—сябры Ураду. У Рэв. Кам.: Кс. А. Станкевіч, інж. Л. Дубейкаўскі і рэд. Я. Пазьняк.

Як бачым, на чале Бел. Інстытуту стаяць выдатныя беларускія інтэлігенты, дык маем надзею, што праца Інстытуту ў бягучым годзе пойдзе яшчэ лепш, што Інстытут узмоцніць акцыю ладжаньня ў гурткох беларускіх лекцыяў, што ёсьць проста неабходнасьцю сяньняшняга дня, што ў наступным годзе будзем цешыцца ня толькі з вынікаў саматужнае беларускае культурнае працы гурткоў на вёсцы, але так-жа і з працы сэкцыяў пры Цэнтралі.

Усе-ж Беларусы, якім дарага справа гаспападарчага і культурнага адраджэньня Беларусі, павінны стаць у рады працаўнікоў Інстытуту.

Я—к.

## ПАСЕДЖАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА УРАДУ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ.

10 красавіка сёл. г. адбылося ў Вільні паседжаньне Цэнтральнага Ураду Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры, на якім, паміж іншым, прынята была адозва, якую мы друкуем на наступных бачынах гэтага нумару нашае часопісі.

# АДОЗВА
# Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

**БЕЛАРУСЫ!**

Збуджаны да новага жыцьця Беларускі народ пачаў будаваць для сябе лепшую будучыню. Думка народна-палітычнага адраджэньня глыбока ўскалыхнула народныя масы і паклікала старэйшае і маладзейшае грамадзянства, сялян, работнікаў і інтэлігенцыю да згоднай працы над будаўніцтвам свайго Вялікага Народнага Дому — сваей Бацькаўшчыны.

Але як у кожнай будове патрэбен фундамант, бо бяз фундаманту будова ня мае моцы і трывалкасьці, то таксама патрэбен фундамант пры будове Беларусі.

Фундамантам, на каторым апіраецца існаваньне кожнага народу, ёсьць ягонае гаспадарчае і культурнае жыцьцё. А трэба сьцьвердзіць, што ў гаспадарчым і культурным жыцьці Беларускі народ адстаў ад другіх народаў. Прычынай гэтай адсталасьці ёсьць ня толькі варожыя адносіны нашых дужэйшых суседзяў, якія, доўга трымаючы наш народ пад сваей уладай, ня дбалі аб яго гаспадарчым і культурным разьвіцьці, але так-жа і сам народ Беларускі дагэтуль дружна ня рупіўся аб палепшаньні свайго палажэньня. Народ наш, пакінены даўней праз сваё баярства, а цяпер праз большую часьць свае інтэлігенцыі, якая пайшла на службу да чужых, ня ведаў і не разумеў патрэбы свайго гаспадарчага і культурнага жыцьця.

Але знайшліся людзі, якія не адчураліся свайго народу і пачалі працу над адраджэньнем свае Бацькаўшчыны. Праца гэта цягнецца ўжо некалькі дзесяткоў гадоў і дала вялікія плады. Цяпер ужо ўсюды па нашым краі відаць вялікае ўсьведамленьне і ахвоту да працы. Не хватае яшчэ аднэй рэчы: **дружнай арганізацыі.**

Закладаць фундамант і будаваць Вялікі Дом людзі пааднаму і ў россып ня могуць, тут патрэбна сільная арганізацыя, бо без арганізацыі ня творацца вялікія рэчы. Нават многамільённая маса, сьведамая і ахвочая да працы, але незарганізаваная, не патрапіць нічога зрабіць для агульнага дабра.

У арганізацыі сіла. Праз арганізацыю ўсе народы будавалі сваё гаспадарчае і культурнае жыцьцё.

Беларусы! Каб падняць гаспадарчае і культурнае жыцьцё нашага народу і **нам патрэбна арганізацыя.**

Такою арганізацыяй ёсьць **Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.**

Інстытут, ад самага пачатку свайго існаваньня (ад 1926 году), ішоў у народныя масы, закладаючы гурткі і гэтак пашыраючы ў народзе думку аб патрэбе гаспадарчага і культурнага адраджэньня. Але гэтага мала. Трэба ня толькі пашыраць думкі аб патрэбе адраджэньня, але **трэба тварыць гэтае адраджэньне**, тр:ба залажыць навуковы цэнтр, дзе-б можна было распрацоўваць ідэолёгічныя асновы гаспадарчага і культурнага адраджэньня Краю.

І такі навуковы цэнтр стварыўся. Дня 18 сакавіка г. году, на агульным Сходзе Рады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, былі пакліканы да жыцьця чатыры навуковыя сэкцыі, у якіх мае сканцэнтравацца навуковая праца над гаспадарчым і культурным адраджэньнем Беларусі. Запісацца ў сэкцыю і працаваць у ёй можа кожны, хто жадае гаспадарчага і культурнага разьвіцьця Беларусі.

Дык заклікаем усіх, хто хоча працаваць на ніве эканомікі, статыстыкі, этнографіі, археолёгіі, гісторыі, соцыялёгіі, літэратуры і мастацтва... запісвацца ў адпаведныя сэкцыі. Запісвацца могуць асобы ня толькі з Вільні, але і з правінцыі.

Сябры з правінцыі будуць памагаць у працах сэкцыяў, зьбіраючы патрэбныя статыстычныя, этнографічныя, археолёгічныя і іншыя матэрыялы. Апроч гэтага сябры з правінцыі могуць памагаць у працы Інстытуту, зьбіраючы творы матэрыяльнай і духовай культуры народу, як: старадаўныя вопраткі, паясы, тканіны, песьні, казкі, прыказкі і г. п., апроч гэтага вышукваючы старыя кнігі, рукапісы, пісьмы выдатнейшых асоб і пісьменьнікаў, гадавікі і аддзельныя нумары старых і мала ведамых беларускіх газэт, старадаўныя дакуманты і ўсё, што датычыць нашага Краю. Знайшоўшы ў сваей акрузе нешта вартаснае, трэба паведаміць аб гэтым Інстытут. Усе прысланыя рэчы будуць пераховывацца ў музэі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, а прысланыя кнігі—у бібліятэцы Інстытуту.

Дык, Беларусы, да працы! Кожны беларус, бяз розьніцы сваіх палітычных і грамадзкіх праканаyньняў, няхай стане ў рады Інстытуту і працуе паводле сваей магчымасьці ў сэкцыях, аддзелах і гуртках. Усе разам будзем закладаць фундамант пад будову Вялікага Беларускага Народнага Дому! Усе да працы на гаспадарчай і культурнай ніве.

*Цэнтральны Урад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.*

(—) *Кс. В. Гадлеўскі*, старшыня
(—) *В. Багдановіч*, віцэ-старшыня
(—) *Др. Б. Грабінскі*, віцэ-старшыня

(—) *Інж. А. Клімовіч*, скарбнік
(—) *А. Стэповіч*, сэкрэтар

(—) *М. Шкялёнак*, сябра Ураду
(—) *Ст. Станкевіч*, сябра Ураду

Вільня, 10 красавіка 1934 году.

# Літэратурны аддзел.

Міхась Машара.

## Сьмерць Кастуся Каліноўскага.

*У 70-тыя ўгодкі Яго сьмерці.*
*(1864 — 1934).*

*Прысьвячаю ЯЗЭПУ НАЙДЗЮКУ.*

* * *

*Паэт ёсьць бедзен — апроч слова*
*Ня можа даць ён вам нічога.*

* * *

*Не па абавязку — не па службе,*
*Як гэта робіцца людзьмі.*
*На памяць нашай шчырай дружбы,*
*Мой гэты верш прымі.*

I.

Паўстаньне згашана, зламана,
Надзея згублена ізноў.
Па Краю ўсім крывавяць раны,
Пад дзікі рогат казакоў.

Гуляюць царскія найміты,
Гуляюць каты і прымус!
Літва і Польшч крывёй заліты,
Ляжыць стаптанай Беларусь.

У замець сьнежную, уночы,
І там, і тут сьмяротны крык —
Піяшчотай жорсткаю ласкочыць
Ізноў маскоўскі штык.

І там, і тут — пажары сьвецюць
На доўгі-доўгі сьнежны шлях.
Ідуць па ім паўстаньня дзеці,
Апошні раз — у ланцугах.

Казак і кат...
Пятля і куля,
На згашшых вогнішчах — крывёй
Спраўляюць п'янае разгульле,
Над „усьміреннай" старапой.

І трупаў, трупаў — Божа слаўны!
Хто не расстрэлян, той — вісіць,
Хто не павешан — той сасланы,
Або за кратамі сядзіць.

II.

Паўстаньне згашана, зламана,
Крывавы цешся Мураўёў:
Літва і Беларусь — стаптаны
Ляжаць памочаны у кроў.

Усюды кат і бат маскоўскі
Здавілі грудзі ўсім жывым
І на'т сам слаўны Каліноўскі
Ужо ня страшны болей ім.

І імя грознае „Дыктатар“,
Ня страшна болей маскалём.
Хаця ня з бою, — а праз здраду,
За кратай звоніць ланцугом.

Пануры мур — вастрог... і краты
У лёху цёмным і сырым;
Як зьвер затраўлены „дыктатар“,
Сядзіць зьняможаны зусім.

О лёхі!
Як страшна чуць сябе між вамі,
І знаць, — што згінеш тут адзін.
Тады, як сонца над палямі,
Прастору шыр і неба сінь!

Чаргой праходзюць успаміны
У сумных думках змагара: —
— Нястрашна гінуць...
— Трэба — згіну!
— Але каб згінуць не дарма!

— О, мой народ!
— О, Край мой сонны,
— Цябе я — слабы ня збудзіў!
— Ты сьпіш, як спаў душой пакорны
— І сонны блудзіш, як блудзіў.

— І на'т ня чуеш мукі сына,
— Якога выдаў сам на крыж.
— За грэх які? — Якія віны?
— За што бязвінны ты цярпіш?

— Дакуль-жа будзеш спаць, народзе,
— Дакуль у блудзе і цямрэ,
— Чужынец ў дзікім карагодзе,
— Таптацца будзе па табе?

— Душу атравіла няволя,
— У паняверцы зьніч твой згас,
— Цярпеньня гора і нядоля,
— У хаце сталі на папас.

III.

Маўчаць муры... маўчаць нямыя, —
Нічым няўзрушаны вастрог.
Нядолі сьведкі векавыя, —
Што ім ўвесь боль людзкіх зьнямог?!

Адзін змагар па лёху ходзіць,
З ім дум яго гульлівы рой
Як-бы праверыць шлях свой хочыць,
Ці суд трымае над сабой.

—Кастусь, Кастусь,ты згінеш,братка,
— Ты лішні стаў ў людзкой сям'е
— Каму свой сьцяг спакінеш спадкам
— І думы вольныя свае? —

— І тыя дробныя зярняты,
— Што ў ноч кідаў з размаху ты,
—- Ці ўзойдуць там, ля шэрай хаты,
— Ў Краіне сну і цемнаты?

—Змоўкне кліч „Мужыцкай Праўды",
— Загасьне душ бунтуючых аўтар,
— Бо вы загінеце абодвы,
— І ты — і Яська-Гаспадар.

— Усіх другіх малую жменю,
— Як лісьце вецер разьнясе.
— Мо' толькі ў новым пакаленьню,
— Пра вас хтось песьню пранясе.

— Прыму усё!...
— Зьнясу пакорна і лагодна,
— І нават моладасьць маю
— Аддам, як дар, Краіне роднай,
— І сэрца жар,
— І ўсю бунтарную душу!

— Аднога толькі ня выбачу,
— Адно з сабой я панясу, —
— Табе народ—нярупнасьць нашу,
— І веру чыстую маю!

## IV.

Заласкатаў засоў іржавы
Вартаўнік дзьверы адчыніў:
— Там клічуць вас на суд дзяржаўны,
— Ідзём са мной, — прагутарыў.

— На суд, на зьдзек, на глум крывавы!
— На суд апошні йдзём, Кастусь!
— Аўтар дыміцца — трэ' ахвяры,
— За сонны грэх твой, Беларусь.

— Літву і Польшч крывавай шматай
— Пакрые сёньня шмат сыноў.
— Яны ішлі з Табой, дыктатар, —
—Ісьці за імі будзь гатоў.

## V.

Пакой вялізны і шырокі,
Ў муры панурым і старым
Заняў сялібай суд высокі, —
Вайсковы суд сабраўся ў ім.

Тры заслужоных генэралы,
Яго вялічаства, цара,
У парчу й золата прыбраны
Судзіць сабраліся бунтара.

Навокал столу селі чынна,
Наўзбоччу — грозны пракурор
І слугі ўсе, як быць павінна,
Як увялося з даўных пор.

А на сьцяне—арол двухглавы,
Карона царская над ім —
Сымбол тыраніі крывавай
І перамогі над слабым.

Як быццам жартамі над праўдай —
Сымбалам праўды лёг на стол
Перад судзьдзямі — сьмех дапраўды —
Хрыста расьпятага сымбол.

І так вясёлы генэралы,
Як бы спаткаліся на піру.
Ня дзіў — сышліся крывавай справай
Служыць крываваму цару.

Старэйшы з іх рукою тлустай
Махнуў таўпе пакорных слуг.
Таўпа варушыцца паслушна,
Згадаць яго уладны рух.

І адчынілі дзьверы з кратай.
Ў таўпе жандармаў-вусачоў
Ідзе на суд „Літвы дыктатар“ —
Патомак слаўных Крывічоў.

І скрыжаваліся пагляды
Вачэй судзьдзі і вязьняра. —
У вязьня думная пагарда,
А люта злосьць — ў судзьдзі была.

Жандармы шчыльнаю таўпою,
Вядуць і садзяць змагара
І шашкі выняўшы, канвоем
На варце сталі бунтара.

*(д. б.)*

---

## KURYCA I KAČANIATY.

*(Bajka).*

Kačynaje hniazdo pad kurycu [papała
(A dzietak mieć jana žadała,
Choć i čužych)
I sieŭšy na hniazdo rupliva,
Jana ŭžo cierpialiva
Čakała dzietak darahich.
Pryšła para, i vyšli kačaniaty—
Z dziubami doŭhimi i łapavaty.
Ŭžo naša kuračka ŭ biadzie:
Dziaciej svaich vučyć biarecca,
Na śmietnik ich viadzie,
I tam hrabiecca,
Da čarviakoŭ ich kliča, da ziarniat,
Kurynaj movy dzietak vučyć
I sakataci na kuryny ład,
To kyrkaje na ich,
To hoładam ich mučyć.
A dzietki mała dbajuć,
Na kurycu hladziać,
Ad hoładu piščać,
Sa śmietniku ŭciakajuć —
Adna biada!
Aby łužyna, vada —
Jany — hladzi — ŭžo papłyli...
A kurycy strach i što rabić, [nia znaje:
Navokał kałužyny biažyć,
Na bierah kliča ich jana,
To ŭ žalu, sumnaja staić,
Pačvaraŭ praklinaje,
Bo rady inšaje niama.
Narešcie z hnievu siłu pryłažyła:
Adnoje dziubam prytaŭkła,
Druhoje prydušyła,
A chto žyvy astaŭsia —
Uciok na voziera chutčej,
Dzie sam saboju navučaŭsia.

—o—

I našych chaj baronić Boh dziaciej
Ad hetakich vučycielak-kurej.

*J. Vilkoŭščyk.*

# Krasavik.

4-ty miesiac hodu; maje 30 dzion. U rymlanaŭ — Aprilis; franc. — Avril; anhiel. i niam. — April. U respub. kal.—Germinal—miesiac prarastańnia.

U słavianaŭ — bierezoł; česk.—duben; ras. —aprel; pol.—kviecień; ukr. — kviteń. palitoŭsku — bałandis.

Biełaruski nazoŭ — krasavik — pachodzić ad słova „krasavać" — ćviści: u hetym miesiacy pačynajuć pajaŭlacca kraski, kvietki.

Rymski nazoŭ krasavika — *Aprilis* — pachodzić ad słova „aperire" — adčyniać, bo ŭ hetym m-cy u Italii adčynialisia (raspuskalisia) pučki na drevach i pačynałasia viasna. Aprilis adnak byŭ paśviačany maciery bahoŭ, Cybelli, u češć katoraj 4 krasavika pačynałasia siamidzionnaje śviata — *Magaleriae*. Druhaja krasavikovaja ŭračystaść rymlanaŭ — *Cerealia*— tak-ža była paśviačana bahini — Cerery. Cerera ččiłasia, jak bahinia ziemlarobstva, apiakunka zbožža i pładoŭ, radzicielka i karmicielka ŭsich žyvučych istotaŭ, u tym liku i narodaŭ. Pamiž inšym, Cerery rymlany prypisvali vynachod ziemlarobstva i ččili jaje, jak žarało ŭsiakaj kultury, vynikaŭšaj z ziemlarobstva. Hetaj voś bahini ŭ časie Cerealia na achviaru składali miod, małako, zbožža, płady i kvietki. Abodva hetyja śviaty symbolizavali prabudžeńnie i ažyćciaŭleńnie pryrody.

I słavianie, budučy jašče pahancami, tak-ža addavali češć viaśnianamu bohu, achviaroŭvajučy jamu jajki, katorymi potym pry viaśnianych ŭračystaściach dzialilisia pamiž saboju. Hety starasłavianski symboličny abrad u chryścijanskuju epochu staŭsia adnym z vialikadnych zvyčajaŭ, katory zachavaŭsia i da našaha času.

Aprača ŭspomnienych vyšej śviataŭ, u rymlanaŭ akurat u dzień zasnavańnia Romułam i Remam h. Rymu, h. zn. 21 krasavika, śviatkavałasia *Palilia*, u češć Palesa — božstva pastuchoŭ. U časie Palilia'ŭ rymlany ačyščali abory, prybirali ich z-vonku zielaninaju, a ŭnutry abkuryvali sierkaju. U achviaru-ž Palesu — składali małako i palili kastry (ahni) z sałomy, praz katoryja praskakivali pastuchi i prahaniali svaju skacinu (symboličnaje ačyščeńnie).

Adhałoskam stararymskich Palilia'ŭ z adnaho boku, a z druhoha pierażytkam metamorfizavanaj personifikacyi (pierajnačanaha uvasableńnia) starasłavianskaha boha Velesa ci Vałosa, apiakuna žyviołahadoŭli—u sučasnym biełaruskim narodzie źjaŭlajúcca abrady i zvyčai źviazanyja z dniom pamiaci mučanika Jahora ci Juraha (Jurje), katory ŭvažajecca apiakunom skaciny, asabliva-ž — karoŭ. Malitvy da śv. Juraha i pierad jaho abrazom, akurvańnie chlavoŭ i skaciny śviatajanskimi ziołkami, vyhaniańnie jaje „śviatoju" viarboju pieršy raz na pašu i abdarvańnie pastuchoŭ (davańnie „zapasnaha") u dzień 23 krasavika — voś hałaŭniejšyja prajavy ŭspomnienych adhałoskaŭ i pierażyt-

kaŭ. Naahuł-ža „Jury," h. zn. dzień 23 krasavika ŭ ekanamičnym, a navat i ŭ jurydyčnym (praŭnym) žyćci biełarusoŭ adyhryvaje značnuju rolu. Da „Juraha" pavinna być pasiejena niekatoraja jaryna i ačyščany chlavy ad hnoju (pieravažna karovinaha); ad „Juraha" ličycca arenda ziamli i termin (rok) najmu parabkoŭ, a tak-ža faktyčny abaviazak pastuchoŭ.

U m-cy krasaviku najčaściej prypadaje najvialikšaje chryścijanskaje śviata — Vialikdzień, tamu jašče ŭ anhlo-saksonskich narodaŭ, paśla pryniaćcia imi chryścijanstva, krasavik nazyvaŭsia vialikadnym miesiacam — *eastermonadh*. Apošni tydzień pierad Vialikadniem naz. Čystym tydniem, — tamu što myjuć, prybirajuć, čyściać u chacie.

Vialikdzień — viasieńniaje śviata i ad jaho pačynajucca šyroka viedamyja biełaruskija karahody, u časie katorych vitajučy i prasłaŭlajučy viasnu maładziaž piaje pieśni-viaśnianki. Časta hetyja karahody adbyvajucca pad adkrytym niebam, na asobnym miejscy — krasnaj (pryhožaj) horcy.

Z Vialikadniem źviazany paminki pamioršych — Radaŭnica, katoraja prypadaje za tydzień na pieršym dni Vialikadnia. Radaŭnica naz. tamu, što pavodle narodnaha zababonu dušy pamioršych prodkaŭ prychodziać na ziamlu i razam, supolna z žyvymi, radujucca z ažyŭšaj pryrodaj (pachryścijansku— radujucca z pieramohi Chrystom śmierci i niačystych siłaŭ). Radaŭnica maje i druhi nazoŭ — Pravodnaja niadziela, pravodni tydzień, a heta tamu, što dušy prodkaŭ symbolična pravodziacca ŭ miejsca ich zaŭsiodnaha prabyvańnia. Na Radaŭnicu kožnaja siamja jdzie na mohiłki i pamaliŭšysia za dušy pamioršych, spraŭlaje na jakoj-niebudź mahile tryznu, astatki jakoje pakidaje na mahiłach. Asabliva pamocnym dla dušy niabožčyka, a karysnym dla žyvučaj siam'i, ličycca raźbivańnie i źjadańnie jajek na mahile. Hety apošni zvyčaj byŭ viedamy z daŭniejšych časoŭ amal uva ŭsich narodaŭ Eŭropy, jak abrad da pašany pamioršych duš. Dzie hetaha nie rabili, tam pakidali ježu na mahile, katoruju potym zabirali žabraki, što nahladajecca i ciapier.

1 krasavika — Prima Aprilis — šyroka viedamy zvyčaj ašukivać svaich znajomych, pasyłajučy ich u roznyja baki i miejscy pad roznymi vydumkami. Inšy raz paviedamlajuć ab roznych vydumanych zdareńniach z metaju vyklikać falšyvuju reakcyju na ich. Pamiž inšym, u daŭniejšaj Niamieččynie hety zvyčaj nia byŭ viedamy, a zaniesieny siudy z Francyi.—Tłumačycca jon dvajaka: 1) adny bačać u im adtvareńnie losu Chrysta, jaki pasyłaŭsia ad Annaša da Kaifaša i ad Piłata da Herada; 2) druhija bačać u hetym zvyčaju namiok na źmienčyvaść krasavikovaj pahody.

Za krasavik dzień prybyvaje na 2 h. 4 min. Što da nadvorja, krasavik zusim padobny da sakavika, ale ad jaho ciaplejšy. Krasavik — miesiac pierałomny, i staryja i chvoryja pavinny vyścierahacca. Kala 15 krasavika na Biełarusi pačynajecca praŭdzivaja viasna.

1 krasavika miascami pačynajecca ekanamičny haspadarski hod. Heta adznačajecca ŭ buchhalterskich knihach, katoryja viaducca haspadarčymi, pramysłovymi i handlovymi pradpryjemstvami. 1 krasavika raspačynajecca ŭ šmat jakich dziaržavach i hod biudžetny, h. zn. dziaržaŭnych dachodaŭ i vydatkaŭ.

Dla ziemlaroba krasavik — samy dziejny miesiac, bo ŭ im vykonvajucca samyja važnyja pracy dla hadoŭli raślin i dahladu žyvioły.

U narodnym kalendary: — Krasavik čorny ŭ poli, a ŭ bary bieły (lažyć śnieh). Kr. z vadoju, travień z travoju. Kr. sušyć, ničoha z ziamli nia rušyć. U kr. ziamla preje. U kr. doždž prachodzić, sonca hreje — tady ŭsiaki nie źbiadnieje. U kr. hrymot — ciopły budzie hod.

2 IV (Star. st.) Na Palikarpa pačatak biaschlebicy.

5.IV. Na Irynu siej kapustu na rassadu.

17(S. st.) Pamiać Zasimy — apiakuna pčałavodaŭ.

18 (S. s.) U dzień św. Kuźmy siejuć morkvu i buraki.

23.IV. Jury z ciapłom, a Mikoła z karmom. — Jury pasie kazu, a Mikoła kania. Jury skazaŭ „žyta ŭradžu," a Mikoła: — „pačakaj, pahladžu" — Da Jurja karmi durnia, a pa Jur'i sam nakormicca. — Kali na Jurja rasa, nia treba koniam aŭsa. — Da Jurja kormu i ŭ durnia. — Kali prydzie św. Jury, nia ŭhledziš u žycie kury. — Na Jurja maroz, budzie dobry avios. — Dva Jurji: adzin hałodny (23 IV), druhi chałodny (26 XI).

25 IV. Doždž na św. Marka — dyk ziamla, jak skvarka.

29.IV. (S. st.) Pryšoŭ Alisiej — avios pasiej.

30.IV. (S st.) Na Jakuba hreje luba.

— Dziady na Radaŭnicu — śniedańnie pa radzicielach. — Na Radaŭnicu da abiedu pašuć, a pa abiedzie płačuć, a ŭviečary skačuć.

— Jakaja pahoda ŭ Čysty Čaćvier, takaja budzie i na Wialikadnia. *U. Paŭ—ski.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

Першая праца літэратурнае сэкцыі пры Бел. Інстытуце Г. і К. Рэдакцыя „Шляху Моладзі" перадала рукапіс кніжыцы грам. Ул. Паўлюкоўскага „Тэхніка вершаў", за згодай аўтора, у Літэратурную Сэкцыю пры Бел. Інстытуце Гасп. і Культуры, дзе знаўцы літэратуры належна яе пераглядзяць і ацэняць. Будзе гэта першая праца новасарганізаванае сэкцыі.

Кніжыцай гэтай зацікавіўся так-жа адзін малады заможны беларус з правінцыі і адклікваючыся на наш заклік, прынцыпова згаджаецца на выданьне яе. Аканчальна спра-

ва будзе вырашана па атрыманьні ім бліжэйшых аб гэтай кніжыцы інфармацыяў.

**Новы Гурток Бел. Інстытуту Г. і К.** апошнім часам заснаваўся ў в. Палікшы, Малацэчанскага пав. Цэнтраля Інстытуту ўжо распачала захады аб легалізацыі гэтае новае бел. культурнае пляцоўкі.

**Грам. Фр. Аляховіч ужо працуе.** Грам. Фр. Аляховіч, які як ведама нядаўна вярнуўся з Саловак, сарганізаваў групу артыстаў-аматараў і ў хуткім часе мае паставіць у Вільні сваю опэрэтку „На Антокалі". Рэпэтыцыі ўжо адбываюцца ў залі Бел. Інстытуту Г. і К. — Жадаем удачы.

**„Самапомач" у пабольшаным фармаце.** Беларуская кооперэтыўна-гаспадарчая часопісь (месячнік) ад м-ца красавіка будзе выходзіць у пабольшаным фармаце, замест 8 бач. будзе 12. Цана падпіскі з гэтай прычыны не пабольшваецца. Беларускае грамадзянства, асабліва на вёсцы, павінна гэта прывітаць сваей падпіскай, якая можа прычыніцца да пабольшаньня гэтае чосопісі ў два разы, бо ёсьць ужо праект зрабіць гэта ад 1 кастрычніка.

**„Пчала" аджыла.** Коопэратыўнае Т-ва „Пчала" ў Вільні, дзейнасьць якога была апошнімі часамі прыціхшы, ажывілася. Дня 18 сакавіка с. г. адбыўся агульны сход сяброў, на якім выбрана новая Наглядная Рада і зроблены некаторыя папраўкі ў статуце. Ёсьць надзея, што далей гэтае Т-ва будзе разьвівацца. Гэтым, ясна, павінны зацікавіцца пчаляры, упісваючыся ў сябры Т-ва. Па ўсе інфармацыі зьвяртацца трэба ў кантору Т-ва „Пчала" ў Вільні — Каралеўская вул. 3—8.

**Спыненьне дзейнасьці Гурткоў Т. Б. Ш.** Апошнім часам дзяржаўныя ўлады спынілі дзейнасьць гурткоў Т.Б.Ш. у Ельцаве, Вял. Грынках, Раманаўцах, Улезлаве і Гарбачох (Ваўкавышчына).

**Зборнік вершаў Я. Быліны.** Бел. поэт Янка Быліна падгатовіў новы зборнік сваіх вершаў, які магчыма хутка будзе выданы, бо ўжо робяцца ў гэтым кірунку паважныя захады.

**Беларускі верш Н. Арсеньневай парасейску.** У № 81 віленскіх штодзенных расейскіх газэтаў „Русское Слово" і „Наше Время" надрукаваны верш беларускае паэткі Наталі Арсеньневай п. н. „Апрѣль" у перакладзе з беларускае мовы ведамага расейскага літэратара і публіцыста Д. Д. Бохана.

**Аддзелу для нашых малодшых** у гэтым нумары „Шл. Мол." рэдакцыя не змагла даць з прычыны нястачы месца; у наступным нумары ён узноў будзе і нават з ілюстрацыямі.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

**Беларусы ў Літве.** Нядаўна атрымалі мы вельмі цікавыя весткі з беларускага жыцьця ў Літве, якія паказваюць, што бел. рух там разьвіваецца. Так напр. Бел. Цэнтр у Літве пачаў выдаваць бел. час. п. н. „Беларускі Асяродак“, вядзе ён так-жа курсы беларусаведы, бюро працы, ладзіць лекцыі ў літоўскім радіо і інш. — Беларускае Культурнае Т-ва апошнім часам сарганізавала 14 бел. вечароў, у Коўне і на правінцыі, падчас якіх былі бел. прадстаўленьні, народныя песьні, скокі і лекцыі.—18.III с.г. у Коўне, у памешканьні „Бел. Хаткі“ адбыўся зьезд Т-ва.—25 сакавіка было сарганізавана ў Коўне сьвяткаваньне 16 угодкаў абвешч. Незалежнасьці Беларусі і 70-тых угодкаў сьмерці К. Каліноўскага, падчас якога прачытаў лекцыю грам. А. Матач. Праграма сьвяткаваньня ў скарочаньні была падана 26.III с. г. праз радіо.

## Usiačyna

**Što robicca na ziamli ŭ praciahu 1 hadziny.** Pavodle padličeńniaŭ vučonych, ziamla, na jakoj my žyviom, maje ŭžo 2 miljardy hadoŭ. U praciahu adnaje hadziny vykopyvajuć ludzi z ziamli 122.000 tonaŭ vuhla, 156,420 bočak nafcianaj ciečy, z jakoj 52.140 bočak pierarablajecca na benzynu da samachodaŭ; fabryki vypuščajuć 700 roznych mašynaŭ, tekstylnyja zavody pierarablajuć na tkaniny 10.000 centnaraŭ bavoŭny i 3.000 centnaraŭ voŭny; cukroŭni vyrablajuć 99.600 tonnaŭ cukru; bojni-ž režuć 35.000 štuk roznaje skaciny. — U hetym-ža časie ludzi źjadajuć 98.000 tonnaŭ cukru, 3,6 miljonaŭ tonnaŭ miasa, 30 miljonaŭ bachankoŭ chleba, 25 miljonaŭ tonnaŭ bulby i 2,4 mil. štuk. jajok, pry tym vypivajuć 1,5 miljon. litraŭ vina, kala 1,5 miljonaŭ litraŭ piva i najmienš 50 miljonaŭ filižanak kavy.

Pošta ŭ praciahu 1 hadziny vysyłaje 114.000 telehramaŭ i 1,141,600 piśmaŭ i paštovych kartak, pierasyłka katorych kaštuje 25 miljonaŭ dalaraŭ.

Fabryki papiery vyrablajuć u praciahu hadziny 1.900 tonnaŭ papiery, drukarni ž drukujuć u hetym časie 1,6 miljonaŭ hazetaŭ i niekalki tysiač knižak.

**Samahubstvy i niščeńnie tavaraŭ.** Pavodle padličeńniaŭ Kamitetu dla źmianšeńnia suśvietnaj biady ŭ Bostonie (Ameryka) u prošłym hodzie adabrała sabie žyćcio z pryčyny roznych biedaŭ 1,200.000 asob, a dziela ŭtrymańnia vysokich cenaŭ niekatorych praduktaŭ, źniščana ŭ hetym samym časie 114.000 vahonaŭ ryžu, 2,500,000 klg. cukru, 400,000 vahonaŭ pšanicy, 1,400,000 klg. miasa, 267,000 miaškoŭ kavy i šmat inšych praduktaŭ.

**Pradaviec hazetaŭ staŭsia prafesaram.** Małady pradaviec hazetaŭ u adnej z kaviarniaŭ u Budapešcie (Vuhorščyna) Lajos Lukas, u volnyja chviliny zaŭsiody vučyŭsia čužych movaŭ. Adnaho razu ŭ kaviarni byŭ ministr aśviety Homan i padyšoŭ da pradaŭca kupić hazetu. Lukas, viedajučy kaho pierad saboj maje, źviarnuŭsia da ministra pafrancusku, paśla paanhielsku, a paśla paitaljansku i to takoj čystaj movaj, što ministr vielmi ździviŭsia i zacikaviŭsia jahonaj asobaj, a pa niekalkich dnioch naznačyŭ jaho prafesaram čužych movaŭ u adnej z pravincyjanalnych siarednich škołaŭ.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Я. Вількоўшчыку. За памяць шчырая падзяка. Прывет!

А. Бярозцы. Вершы атрымалі, будзэм карыстаць пакрысе. Заўважваем у Вас поступ да лепшага.

С. Гаротнаму. Вашы вершы нішто сабе, — ёсьць малыя пахібы ў меры і рытме, але мы гэта паправім і надрукуем іх у наступных нумарох. Радзім пісаць і працаваць над сабой. Што маеце напісанага — прысылайце, у меру магчымасьцяў будзем карыстаць. „Б. Г." ня выходзіць, „Шл. Мол." устрымліваць Вам ня будзем.

П. Авічу. Вельмі нас уцешыла Ваша пісулька. На днях вышлем падробныя інфармацыі.

І. П—ну. Просьбу споўнілі, вершы зусім слабыя і радзім Вам іх ня пісаць, а калі думаеце пісаць, то пазнайце перадусім добра беларускі правапіс і граматыку. „Шл. М." высылаецца Вам акуратна.

Навум Г—нка. Жылка да пісаньня ў Вас ёсьць, але трэба вучыцца беларускае граматы, а пасьля, думаем, будзе можна друкаваць Вашы творы, бо пакульшто яны вельмі шмат патрабуюць апрацоўкі. Пры тым радзім пісаць выключна прозай, бо Вам яна лепш удаецца.

Ю. Зел—чу. Усё добра, але нажаль за позна, залічаны аднак будзеце да агульнага конкурсу.

Гаварун — Крэва. Карэспандэнцыю перадалі, згодна з просьбай, верш, паправіўшы, надрукуем. Разьвязкі добрыя, за круцігалоўкі падзяка, — будзем пакрысе зьмяшчаць. Пішэце часьцей і прозай. Просім зьмяніць свой псэўдонім, бо ў нас ужо адзін „Гаварун" ёсьць.

Б. Віл—цю. За добрыя словы падзяка, просьбу спаўняем.

Усім, хто прасіў высылкі „Шляху Моладзі" ня спыняць — просьба споўнена.

Падаём да ведама, што даплатных пісьмаў Рэдакыя ня прымае.

## КУТОК РАЗРЫВАК.

**Разьвязаньне круцігалоўкі № 4.** Словы: 1) пушча, 2) волат, 3) дзяды, 4) кухня, 5) Нёман, 6) Трокі, 7) золак, 8) драма, 9) хадэк, 10) казка, 11) асіна. Разьвязка: Шлях моладзі.

**Разгадка загадак: № 2** — грыб; **№ 3** — йшлі бацька, сын і ўнук.

| | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | |
| 2 | | | | |
| 3 | | | | |
| 4 | | | | |

**Круцігалоўка № 5** — *улаж. Я. В.*

6 літараў **а**, 4 — **б**, 2 — **з**, 1 — **о**, 2 — **р** і 1 — **ы** так напісаць упаданых збоку клетках, каб чытаючы іх згары ўніз і злева направа атрымаць словы таго самага значэньня.

**Круцігалоўка № 6** — *улаж Гаварун.*

Словы наступнага значэньня: 1) інакш торг, 2) нядзеляшні сялянскі прысмак, 3) назоў сялянскае камуністычнае гаспадаркі, 4) інакш балота, 5) месца, дзе растуць ягады, 6) дамовая птушка, 7) мужчынскае імя, 8) сталіца ССРР, 9) чалавек, які ўсё робіць левай рукой, 10) матэр'ял, якім крыюць дамы ў местах, 11) інакш—рыбіныя яйкі, 12) дамовая водная птушка — падпісаць адно пад другім так. каб можна было, чытаючы ў двух мясцох літары згары ўніз, адчытаць імя і прозьвішча закладчыка бел. музэю ў Вільні і імя і прозьвішча аднаго з сучасных маладых бел. паэтаў у Зах. Беларусі.

Увага: Слова № 2, 4 і 10 пісаць лацінкай, а літары іх чытаць гражданкай.

Разьвязкі трэба прысылаць не пазьней 10 дня кожнага м-ца.

Нагароды за разьвязаньне круцігалоўкі № 4 і адгаданьне загад. № 2 і 3 — кніжка „Сымон Музыка" і гадавая падпіска на „Шл. М." — у выніку лёсаваньня выпала Грам. Даніловічу з Ашмяншчыны. Кніжка выслана.